# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

11 ЛІПЕНЯ 1992 г.
субота, № 138 (21916)


**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 4.51, 21.38, 16.47;
Віцебск — 4.33, 21.35, 17.02;
Магілёў — 4.40, 21.27, 16.47;
Гомель — 4.47, 21.15, 16.28;
Гродна — 5.08, 21.50, 16.42;
Брэст — 5.17, 21.43, 16.26.

**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 7 ліпеня.

**ІМЯНІНЫ:**
Сяргея, Германа, Паўла; Вольгі, Пелагеі.

## РОЗГАЛАС

### УДАРЫМ ПА РАДЫЕНУКЛІДАХ... БАТОНАМ

**ВАЎКАВЫСК. Нічога дзіўнага, на першы погляд, у тым, што хлебазавод пачаў выпускаць з пшанічнай мукі новы батон «Здароўе». Але, аказваецца, «Здароўе» спрые паскарэнню вываду з арганізма... радыенуклідаў. Справа ў тым, што батон утрымлівае карацін у масле (правітамін «А»). У ім таксама цукар, маргарын, соль, дрожджы.**

### КІШЭНІ, ПОЎНЫЯ ГРАНАТ

**ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ. (У. Пернікаў). Падзеі апошніх часоў сведчаць аб тым, што для многіх своеасаблівай модай стала ўзбраенне.**

Так, у Гомелі была затрымана легкавушка, у якой ехалі два літоўскія кааператары і малады лайдак з Рэчыцы, які нідзе не працуе. У кішэнях апошняга ляжалі дзве гранаты.

Яшчэ большы зброевы арсенал быў выяўлены ў групы хлопцаў, што ваяжыравалі ў Буда-Кашалёўскім раёне — рабочага Гомельскай бройлернай фабрыкі, нідзе не працуючых двух братоў з Веткаўскага і жыхара вёскі Калініна Буда-Кашалёўскага раёнаў. Супрацоўнікі міліцыі адабралі ў іх фінскі нож, баявую гранату, нямецкую вінтоўку і тры патроны да яе.

Кур'ёзны выпадак адбыўся з фрэзероўшчыкам вытворчага аб'яднання «Вымяральнік». Дэманструючы сваёй знаёмай добнакаліберны пісталет-аўтаручку, што нібыта купіў на рынку ў Брэсце, ён незнарок параніў сябе ў бядро. Ды так, што запатрабавалася неадкладная медыцынская дапамога.

З нагоды ўсяго сказанага можна толькі парадавацца таму, што ўладальнікі фінскага нажа, гранат і вінтоўкі не дадумаліся да шырокай дэманстрацыі баявых здольнасцей сваёй зброі.

### ЦІ ЛЁГКА БЫЦЬ БІЗНЕСМЕНАМ?

Сапраўднымі бізнесменамі па прызванню, сцвярджаюць заходнія даследчыкі, з'яўляюцца толькі 3 працэнты людзей. Большасць жа з нас, пакуль жыццё не перавучыла, даверлівыя, як цыляты. І не выпадкова на пінскім рэчавым рынку з'явіліся спрытнюгі, якія з поспехам выдаюць сябе за работнікаў міліцыі і падатковай службы. У расцяпістых гандляроў, якія не здагадваюцца праверыць дакументы, жулікі рэквізуюць рэчы, а магчыма, бяруць і хабар.

Расплачвацца «бізнесменам» прыходзіцца і за сваю дрэнную інфармаванасць. Многія дзелавыя людзі нават не падазраюць, што вывозіць з Беларусі вялікія партыі тавараў можна толькі па спецыяльных ліцэнзіях. Няведанне законаў не вызваляе іх парушальнікаў ад адказнасці. Увесь вывозімы тавар у перакупшчыкаў канфіскуецца ды яшчэ даводзіцца заплаціць штраф ад 5 да 10 тысяч рублёў. Усяго за паўтара месяца на пінскім вакзале такім чынам канфіскавана рэчаў на 438 тысяч рублёў.

## Гімн Беларусі. Якім яму быць?

**Сёння мы завяршаем публікацыю вершаваных твораў, дасланых на конкурс праектаў Дзяржаўнага гімна Беларусі. Усе яны сучасных аўтараў, а таму падаюцца пад дэвізамі. Нагадваем, што ў адборы лепшых могуць удзельнічаць усе грамадзяне рэспублікі. Вам застаецца ўважліва прачытаць і даслаць у рэдакцыю ліст з указаннем твору, які найбольш спадабаўся. Спяшайцеся. Магчыма, ваш голас будзе рашаючым!**

**4. 3-ЦІ ВАРЫЯНТ**

Мы не згубіліся ў свеце,
Мы збераглі свой дом —
Нам пераможна свеціць
Грунвальд сваім шчытом.
Зніч святы ўзыходзіць
У святле зары,
У сваёй гасподзе
Мы — гаспадары.
ПРЫПЕЎ: Радзіма Беларусь,
Ты сцяг свой узняла,
Сатканы з белых руж
І чырвані-святла.
Дух наш у слове Скарыны,
Ён і дасюль не згас.
Доля слабых скарыла —
Загартавала нас.
Застаецца з намі
І ратуе зноў
Чыстымі званамі
Спадчына вякоў.
ПРЫПЕЎ: Радзіма Беларусь,
Ты сцяг свой узняла,
Сатканы з белых руж
І чырвані-святла.
Волю сваю абаронім,
Нас не пакіне Бог.
Кліч баявы «Пагоні»
Славу здабыць памог.
Ласкаю і згодай
Наш багаты дом.
Мы да ўсіх народаў,
Як браты, ідзём.
ПРЫПЕЎ: Радзіма Беларусь,
Ты нам жыццё дала.
Дзяржава Беларусь,
Хвала табе, хвала!

**5. А ХТО ТАМ ІДЗЕ!**

Не пакіне Бог
Нашу Беларусь —
Яна ў вяках
Адшукае свой шлях!
Годзе ўжо марна жыць
У пакорнай згодзе,
Крыўду сваю, як крыж,
Несці на плячах!
Люд свой збірай
Пад Айчыны вольны дах,
Вышэй уздымай
Бел-чырвона-белы сцяг!
Час не здолеў нас
Вынішчыць на звод.
Руш у паход,
Нескароны народ!
Родная Беларусь,
Пад крысом «Пагоні»
Шчасце сваё будуй,
Вольна расцвітай!
Гонар трымай,
Шчыра праўду спавядай,
Бацькоўскі край
Мірнай працай услаўляй!

**6. О, ФАРТУНА!**

Жыве Беларусь!
Веру — будзе жыць заўсёды.
Святло «Пагоні»
Будзе сэрцы нашы акрыляць.
Жыве! Жыве—
Наш край пакутны і свабодны,
Нескароная нікім і святая зямля.
Беларусь, Беларусь,
Хай мінуць цябе ўсе нягоды.
Век у шчасці жыві,
Ты—Радзіма мая.

Жыве Беларусь—
Нашай волі абуджэнне.
Краіна-маці,
Ты прызнанне шчырае прымі,
Жыве! Жыве!—
Гучыць ўзнёсла блаславенне.
Беларускі горды дух
Уваскрос з даўніны.
Беларусь, Беларусь,
Мы тваё вітаем Адраджэнне.
Будзеш вечна вольнай ты,
Будзем вольнымі мы.

Жыве Беларусь!
Нас нядоля не здалела.
Магутны Божа,
Беражы Айчыну з году ў год.
Жыве! Жыве!—
Як непагасны сімвал веры
Будзе вечна на зямлі
Паспаліты наш род.
Беларусь, Беларусь!
Пад штандарам бел-чырвона-белым
Век у шчасці жыві,
Беларускі народ!

### А ЦЭНЫ ЎСЕ РАСТУЦЬ...

Ва ўчарашнім нумары газеты была змешчана інфармацыя пра падаражанне некаторых відаў прадуктовых тавараў. Відаць, многія і не падазравалі, што гэта адбудзецца, таму, каб пераканацца, пачалі тэлефанаваць у рэдакцыю.

З раніцы «зверху» нас запэўнілі, што павышэння цэн не адбылося. Аднак потым усё стала на сваё месца. І цяпер, напрыклад, гарэлка «Пшанічная» каштуе не 76 рублёў, а 105, а «Белая Русь» не 87, а 135.

Так што перш чым выпіць, прыйдзецца падумаць, а ці хопіць грошай на закусь? А яшчэ ў галаве адна банальная думка: як выжыць у сённяшнім жыцці пенсіянерам і малазабяспечаным?

### НАРАДЖАЦЬ ПРЫЙДЗЕЦЦА Ў СУСЕДА...

**БАРАНАВІЧЫ. Літаральна за некалькі дзён рэзка ўзрасла колькасць насельніцтва ў Ляхавічах.**

**Справа ў тым, што ў Баранавічах днямі на дэзінфекцыю закрыўся адзіны ў горадзе раддом. Цяпер будучым маці горада і Баранавіцкага раёна прыйдзецца ездзіць «рабіць» план па нованароджаных да суседзяў.**

### «ПРЫЙШОЎ ПЯТРОК...»

*Заўтра, 12 ліпеня, Беларуская праваслаўная царква ўшаноўвае святых першавярхоўных апосталаў Пятра і Паўла. У суботу ж заканчваецца Пятроўскі пост.*

*Свята адзначаецца на пяты дзень пасля Купалля і з'яўляецца працягам купальскіх гулянняў. Святы Пётр лічыцца апекуном хлебаробскай працы. Пасля Пятра лета пачынае хіліцца да восені, аб чым гаворыць вядомая прымаўка: «Прыйшоў Пятрок — апаў лісток». Калі на Тройцу дзяўчаты «завівалі» бярозкі, то на Пятра іх развівалі, у гэты дзень не дазваляецца таксама сварыцца. Восень яшчэ толькі-толькі нагадвае аб сабе першым апалым лістком, але пара яшчэ цёплая, летняя, ноч кароткая: «Пятрова ночка невялічка. Не выспалася панічка».*

*Цяпер — крыху аб гісторыі свята. Святы апостал Пётр (у Бібліі ён яшчэ вядомы пад імем Сімон) — паслядоўнік вучэння Ісуса Хрыста, аўтар двух саборных пасланняў, якія ўвайшлі ў Свяшчэннае пісанне. Святы апостал Павел прапаведваў у многіх краінах ад Іерусаліма і да Рыма. Ён вядомы таксама 14 пасланнямі да асобных цэркваў і людзей. Гэтыя пасланні таксама змешчаны ў Бібліі. У 67 годзе н. э., у час праўлення рымскага імператара Нерона, апостал Пётр быў распяты, а апостал Павел абезгалоўлены.*

## «Мы несумненна пройдзем цяжкі перыяд»

### *Выступленне В. КЕБІЧА на нарадзе-семінары старшынь выканкомаў Саветаў народных дэпутатаў*

Паважаныя таварышы!

Мне хацелася б выкарыстаць сённяшнюю нашу сустрэчу для таго, каб данесці да вас усю тую занепакоенасць, якая ёсць у нас у сувязі з абстаноўкай у рэспубліцы. Гэта датычыць стану грамадства, становішча спраў у эканоміцы і ўплыву на ўсё гэта мясцовых органаў улады.

На жаль, многія з вас недаацэньваюць таго, што адбываецца, не ўлоўліваюць галоўнага, займаюцца другараднымі справамі, раўнадушна адносяцца да таго, што будаража людзей, не шукаюць тых сродкаў, якія маглі б фарміраваць настрой людзей, не давалі б ім скатвацца ў бездань адрываючых ад справы палітычных страсцей. Дзіўна, але чамусьці многія проста не разумеюць, што сёння пытанне стаіць так: ці выжывем мы як самастойная дзяржава, як нацыя, як дружная сям'я ўсіх народаў, якія насяляюць нашу рэспубліку.

У многіх рэгіёнах былога Саюза разгарнулася самая сапраўдная вайна. А ўзнікла яна, як вы ведаеце, з малога, з дробязных крыўд і канфліктаў. Але знайшліся сілы, якія змаглі раздуць тлеючыя вугалі ў бушуючае полымя. У ім гінуць не тыя няўдачныя палітыканы, якія ўсё гэта заварылі, а ні ў чым не вінаватыя людзі — жанчыны, старыя і дзеці. Прычым ніхто ўжо не думае, што трэба расціць збожжа, працаваць на заводах, будаваць дамы. Усё засланіла сляпая нянавісць.

Няўжо мы можам дапусціць у сябе нават штосьці падобнае? Проста ў галаве не ўкладваецца.

Нам з вамі выпала нялёгкая доля. Сёння ўсе ўладныя структуры аказаліся ў эпіцэнтры, што знаходзіцца паміж старым і новым, паміж сіламі, якія нясуць у сабе канструктыўны зарад, і тымі, хто гатовы ўсё разбурыць, прыкрываючы гэта прыгожымі фразамі. А простаму чалавеку разабрацца ў гэтым нялёгка. І, на жаль, у большасці выпадкаў мясцовыя органы ўлады раўнадушна глядзяць на гэта. Быццам іх і не датычыць. А сёй-той, імкнучыся нажыць танную папулярнасць, нават падлівае масла ў агонь, спрабуе сваю ж бяздзейнасць звальваць на ўрад, забываючыся аб тым, што пойдзе ў адстаўку гэты ўрад, які цвёрда прытрымліваецца ўзважаных падыходаў, пойдуць у адстаўку і яны. Іх проста змяце хваля анархіі і беззаконнасці.

Сёння наша эканоміка, ды і ўсе структуры дзяржавы не зведваюць тых разбуральных удараў, якія літаральна ўзрушаюць многія рэгіёны былога Саюза, галоўным чынам таму, што ў нас існуе пэўная стабільнасць. Дзякуючы гэтаму з намі выказваюць жаданне супрацоўнічаць іншыя дзяржавы, міжнародныя арганізацыі і буйныя прыватныя фірмы.

Мне ў час маіх зарубежных паездак многія вядомыя палітычныя дзеячы і бізнесмены часта выказвалі занепакоенасць наконт магчымага ў нас рэферэндуму, ставячы пры гэтым сваё супрацоўніцтва з намі ў прамую залежнасць ад таго, ці застануцца ў рэспубліцы стабільная абстаноўка і той урад, з якім яны цяпер маюць справу. І з гэтым трэба лічыцца, таму што мы не зможам, — аб гэтым прама трэба сказаць, абысціся без буйных укладанняў у нашу эканоміку замежнага капіталу.

Стабільнасць цяжка стварыць, але лёгка разбурыць. А іменна гэта і спрабуюць рабіць некаторыя партыі і рухі, спекулюючы на цяжкасцях пераходнага перыяду. Вядома, чаго-чаго, а цяжкасцей у нас хапае. Але сусветны вопыт паказвае, што па-іншаму, на жаль, на буйных паваротах гісторыі быць не можа. Нельга расцэньваць гэта як нейкую трагедыю. Гэта цалкам аб'ектыўныя працэсы, і нам трэба ўсё гэта перажыць.

Сёння народная гаспадарка адчувае жорсткі прэсінг па ўсіх напрамках, што праяўляецца ў зніжэнні вынікаў функцыяніравання як эканомікі рэспублікі ў цэлым, так і асобных яе галін. З вялікім адставаннем ідзе выкананне даходнай часткі бюджэту. Ён працягвае заставацца дэфіцытным, што непасрэдным чынам адбіваецца на фінансаванні першачарговых расходаў. У народную гаспадарку з-за неплацежаздольнасці многіх прадпрыемстваў уліліся велізарныя крэдытныя рэсурсы. На 1 ліпеня бягучага года яны перавысілі 150 млрд. рублёў. Нацыянальны банк і ўрад вымушаны былі пайсці на такія крэдыты. Інакш дзейнасць соценъ прадпрыемстваў была б проста паралізавана.

Нядаўна мы прынялі рашэнне правесці ўнутрырэспубліканскі залік узаемных патрабаванняў прадпрыемстваў і арганізацый. Вынікам гэтай работы стала пагашэнне ўзаемных даўгоў пастаўшчыкоў і спажыўцоў на агульную суму 126 млрд. рублёў. Несумненна, гэта палепшыла фінансавы стан прадпрыемстваў і знізіла іх запазычанасць бюджэту. Але нагрузка на крэдытныя рэсурсы ад гэтага не аслабла, а, наадварот, узрасла. За крэдыты ж усё роўна прыйдзецца разлічвацца.

Акрамя таго, з 1 ліпеня, як мы дагаварыліся з іншымі краінамі, якія ўваходзяць у СНД, павінен праводзіцца і міждзяржаўны залік узаемных патрабаванняў прадпрыемстваў і арганізацый. Гэта таксама магло б аслабіць многія вузлы ў

(Заканчэнне на 2-й стар.).

### ПРЭЗІДЭНТ РУМЫНІІ НАВЕДАЕ БЕЛАРУСЬ

У нядзелю, 12 ліпеня, чакаецца прыбыццё ў сталіцу рэспублікі з афіцыяльным двухдзённым візітам прэзідэнта Румыніі Іона Іліеску. Раней ён наведаў Эстонію.

Амаль адразу ж пасля прыбыцця ў Мінск кіраўнік Румынскай дзяржавы сустрэнецца «сам-насам» са Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі Станіславам Шушкевічам. Затым у Доме знешнеэканамічных сувязей пачнуцца беларуска-румынскія перагаворы. Мяркуецца, што пасля іх завяршэння будзе падпісана дэкларацыя аб узаемаразуменні, дружбе і супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і Румыніяй.

Праграмай наведання Іона Іліеску беларускай сталіцы прадугледжаны таксама сустрэчы з кіраўніком урада Вячаславам Кебічам, дэпутатамі Вярхоўнага Савета рэспублікі. У завяршэнне знаходжання адбудзецца прэс-канферэнцыя для журналістаў.

Як паведаміў карэспандэнту БЕЛТА часовы паверанны ў справах Румыніі ў Беларусі Нікалае Стыня, гэта будзе першы афіцыяльны візіт Іона Іліеску ў Беларусь. Ён адыграе вялікую ролю ў справе паглыблення ўзаемных намаганняў па выкананню эканамічнага пагаднення, падпісанага раней. Нашы краіны, на думку румынскага прадстаўніка, маюць добрыя прадпасылкі для развіцця ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва.

### ДА ВІЗІТУ ПРЭЗІДЭНТА РУМЫНІІ ІОНА ІЛІЕСКУ Ў БЕЛАРУСЬ



Іон Іліеску быў выбраны прэзідэнтам Румыніі 20 мая 1990 года васьмюдзесяццю пяццю працэнтамі галасоў выбаршчыкаў на першых за пасляваенны перыяд свабодных выбарах у краіне. Іон Іліеску нарадзіўся 3 сакавіка 1930 года ў румынскім горадзе Алтэніца. Закончыў Бухарэсцкі політэхнічны інстытут і энергетычны інстытут у Маскве. З 1955 года працаваў у Інстытуце энергетыкі і праектавання. У 1967 годзе назначаны міністрам па справах моладзі. Пасля 1971 года займаў рад адказных пасад у КП Румыніі і органах мясцовага самакіравання. У 1979 годзе з-за рознагалоссяў з Нікалае Чаушэску быў зняты з усіх партыйных і дзяржаўных пасад і назначаны прэзідэнтам Нацыянальнага савета па воднай гаспадарцы, затым працаваў дырэктарам выдавецтва тэхнічнай літаратуры «Эдытура тэхніка».

З 1984 па 1989 гады знаходзіўся пад пастаянным наглядам службы дзяржаўнай бяспекі.

У лютым 1990 года стаў прэзідэнтам Часовага савета нацыянальнага саюза, а ў красавіку быў вылучаны кандыдатам у прэзідэнты ад Фронта нацыянальнага выратавання.

22 снежня 1991 года ад імя Савета ФНВ Іон Іліеску аб'явіў аб распадзе ўсіх структур улады рэжыму Чаушэску і заявіў аб рашучасці новай, дэмакратычнай і плюралістычнай Румыніі да правядзення палітыкі адкрытасці на міжнароднай арэне.

Свабодна валодае французскай, англійскай і рускай мовамі.

**Аддзел інфармацыі МЗС Рэспублікі Беларусь — БЕЛТА.**

### БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫ!

**БАРАНАВІЧЫ. Незвычайная гуманітарная дапамога прыйшла ў Баранавічы з аўстрыйскага горада-пабраціма Штокерау. Бургамістр Леапольд Трысенскі падарыў гораду апарат для ультрагукавой дыягностыкі сэрца, рэанімабіль, дзіцячыя інвалідныя каляскі.**

**Усё прывезенае «гаспадар» асабіста развёз па медыцынскіх установах.**

### На 205 «акадэмікаў» стала больш



**Упершыню ўручэнне дыпломаў выпускнікам Акадэміі міліцыі Рэспублікі Беларусь адбылося на плошчы Перамогі.**

**Наш прэм'ер Вячаслаў Кебіч назваў першы выпуск акадэміі дзяржаўным актам. Але і папярэдзіў дзвесце пяць хлопцаў у свежанькіх лейтэнанцкіх пагонах, што цяжкія дні наперадзе.**

**І гэта сапраўды так. На плечы наваспечаных афіцэраў міліцыі кладзецца і ўзросшая злачыннасць, і ўся неразбярыха з законамі, прававымі нормамі. Ім, сёлетнім выпускнікам, ствараць прававое заўтра незалежнай дзяржавы. Ці гатовы яны да гэтага? У дыпломе — юрыст-правазнаўца, у позірку — юнацкая задзёрыстасць і ўпэўненасць, што ўжо ад цябе злачынца не ўцячэ. Дай жа Бог ім і далей захоўваць свае гатоўнасць і веру.**

**Дарэчы, амаль усе выхаванцы акадэміі былі ў свой час у Карабаху, некаторыя з іх праходзілі службу ў Афганістане. Ды і сама акадэмія лічыцца на добрым рахунку ў Садружнасці: сярод выпускнікоў ёсць грузіны і узбекі, украінцы і рускія... А вось усіх навучэнцаў-азербайджанцаў пасля чацвёртага курса новы прэзідэнт Азербайджана адклікаў дамоў. Ім, прэзідэнтам, вядома, лепш відаць...**

**Акадэмія сёлета выпусціла афіцэраў трох спецыялізацый: адміністрацыйна-прававой, аператыўна-пошукавай і следча-крыміналістычнай. Нам застаецца толькі спадзявацца, што ў любога, хто будзе ўвечары выходзіць на вуліцу, стане больш упэўненасці ў сваёй недатыкальнасці.**

**Аляксандр КОКТЫШ, Яўген ПЯСЕЦКІ (фота).**

**Пётр СТАСЮК:**

### «Суд праходзіў цяжка...»

**З 16 чэрвеня па 1 ліпеня ў народным судзе Цэнтральнага раёна Мінска праходзіў суд: генеральны дырэктар Белдзяржстраха Пётр Стасюк супраць народнага дэпутата Беларусі Яўгена Новікава. Нагадаем коратка аб сутнасці справы.**

5 сакавіка г. г. «Радыёфакт» прадаставіў магчымасць Яўгену Новікаву выступіць па пытанню законнасці прыняцця Саветам Міністраў РБ пастановы № 399 «Аб стварэнні Беларускай дзяржаўнай страхавой камерцыйнай арганізацыі». У гэтым выступленні народны дэпутат прад'явіў абвінавачванне Стасюку ў антыдзяржаўнай дзейнасці, у карупцыі.

Натуральна, генеральны дырэктар Дзяржстраха палічыў, што гэта выступленне закранула яго гонар, і звярнуўся ў суд, каб абавязаць Новікава і Дзяржтэлерадыё абвергнуць сказанае ў праграме «Радыёфакт».

— Давайце разбяромся ў дэталях, якія насцярожылі дэпутата, — пачаў размову Пётр Стасюк на чарговай сустрэчы з журналістамі пасля суда. — Возьмем пункт 8 Палажэння аб Белдзяржстраху, на які спасылаецца Новікаў,—прыбытак, які застаецца пасля ўплаты падаткаў і іншых плацяжоў у бюджэт, з'яўляецца ўласнасцю Дзяржстраха. Дзе тут крымінал? А хіба Закон аб дзяржпрадпрыемстве, прыняты ВС РБ, гаворыць пра іншае? Так, сапраўды, прыбытак, які застаецца пасля ўплаты ў бюджэт, накіроўваецца на будаўніцтва службовых памяшканняў, жылля, іншыя матэрыяльныя каштоўнасці для страхавых органаў рэспублікі. Як мог дазволіць сабе народны дэпутат галаслоўна заявіць, што ўласнасць Белдзяржстраха належыць вузкай групе асоб — кіраўнікам Белдзяржстраха? Выступленне Яўгена Новікава ад пачатку і да канца—паклёп, накіраваны на падрыў дзяржаўнага страхавання. Гэта, па сутнасці, эканамічная дыверсія на падрыў даверу да ўрада і асабіста Вячаслава Кебіча і яго намесніка Міхаіла Мясніковіча, якія падпісалі дакументы па Беларускай дзяржаўнай страхавой камерцыйнай арганізацыі, па стварэнню дзяржаўнага страхавога нагляду. Мэта страхавога нагляду—абараніць страхавальнікаў. Паколькі мы ўваходзім у рынак, з'яўляюцца новыя альтэрнатыўныя арганізацыі, якія могуць на гэтым беззаконні зняць «смятанку». Таму пастанова накіравана ў першую чаргу на абарону інтарэсаў страхавальнікаў. А іх у нас 8 мільёнаў.

**— Яўген Новікаў заявіў, што прыбытак ад інвестыцый прысвойваецца...**

— Фантазія дэпутата. Прыбытак, паўтаруся, які атрымліваецца ад інвеставання сродкаў страхавання, размяркоўваецца ва ўстаноўленым законам парадку, прычым частку з яго атрымліваюць страхавальнікі, тое ж, што застаецца, ідзе на развіццё страхавых органаў, а таксама на вырашэнне сацыяльных пытанняў. У прыватнасці, на выплату 13-й зарплаты ўсім страхавым работнікам.

Узгадаў Пётр Стасюк на сустрэчы з журналістамі і пра тое, што суд праходзіў вельмі складана.

— Новікаў лічыў, што маю заяву ў судзе не павінны былі прымаць. Ён адмаўляўся даваць паказанні, абвінавачваў суддзю ў тым, што яна з'яўляецца памагатай у крадзяжах.

Як бы там ні было, але факт застаецца фактам: суд Стасюк супраць Новікава закончыўся на карысць першага. Прадстаўнікі Феміды, перад якімі на працягу 10 дзён ламалі коп'і народны дэпутат і генеральны дырэктар Белдзяржстраха, вырашылі, што вінаваты народны дэпутат. Суд задаволіў іск Стасюка. Цяпер Яўгену Новікаву прыйдзецца выплачваць Пятру Стасюку за нанесены маральны ўрон 15 тысяч рублёў. Не абышла «гэта чаша» бокам і праграму «Радыёфакт», якая прадаставіла слова народнаму дэпутату: ёй давядзецца аддаць Стасюку 5 тысяч.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

### РАДЫЁФАКТ

У Маскве адкрыты помнік вядомаму палкаводцу Георгію Жукаву, жыццё якога цесна звязана з Беларуссю. Бюст з бронзы і мармуру ўстаноўлены ля станцыі метро «Каширская».

***

**Беларуская праваслаўная царква ўшаноўвала памяць святога нашай зямлі — прападобнага Марціна Тураўскага. Ён быў простым кухарам пры епіскапах Тураўскіх. Гасподзь даў яму магчымасць бачыць іх святое жыццё, чуць іх святыя малітвы пра ўратаванне народа беларускага.**

***

Цяжка падлічыць, колькі за апошні час у Мінску прайшло розных канферэнцый, семінараў, нарад, сустрэч, кірмашоў. Вось і днямі завяршыўся чарговы — «Усход — Захад — Поўнач—Поўдзень». Дарэчы, як сказаў у гутарцы з карэспандэнтам «Радыёфакта» прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Беларусі Уладзімір Карагін, усе кірмашы ідуць рэспубліцы на карысць. Заключана шмат здзелак. Ну, а на апошнім вельмі добра была арганізавана ахова — не было ўкрадзена нават цвіка.

### Мецъ дзяцей усё цяжэй

**КРЫЧАЎ. (А. Балдоўскі). Усё менш радасці і ўсё больш смутку прыносіць нам сучаснае жыццё. Даюць падставу для роздуму некаторыя статыстычныя даныя.**

Напрыклад, усяго дзесяцігоддзе назад, у 1981 годзе, у Крычаве нарадзілася 513, а памерла 262 чалавекі. Быў прыкметны прырост. У 91-м гэтыя лічбы ўжо складалі адпаведна 401 і 353, а за кароткі тэрмін бягучага года — 101 і 129.

Баланс, як бачым, адмоўны: колькасць нябожчыкаў перавысіла колькасць нованароджаных. Гэта найперш паказчык таго, што жыць стала цяжэй, значна пагоршыўся дабрабыт.

